Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№. 33 — Вільня, Серада, 10-га лістапада 1926 г. — Год I

## Які выхад?

Да апошніх дзён адзінай аддушынай, праз якую даходзіў на шырокі сьвет голас беларускае вёскі, зьяўлялася прэса. Тут—на страніцах перадусім нашае газэты — зьмяшчаліся і зьмяшчаюцца дзесяткамі карэспандэнцыі — з скаргамі на ўсё злыбяды, крыўды, гвалты, зьдзекі, дазнаваныя вясковым і мястачковым насяленьнем ад агентаў улады на мясцох.

Цяпер—пасьля „маральнага перавароту"—і гэтая аддушына ў значнай меры аказваецца *заткнутай*. Побач мы друкуем дэкрэт Прэзыдэнта Рэспублікі аб карах на прэсу (—і то карах ня толькі на рэдактароў і аўтараў, але на цэлы сьцяг газэтных працаўнікоў!)—за „падаваньне фальшывых ці перакручаных вестак" аб дзеяльнасьці ўлады. Вось-жа, прымаючы пад увагу, што ў кожай карэспандэнцыі з скаргай на незаконныя паступкі адміністрацыі на мясцох можна вышукаць нейкую дробную няточнасьць, вынікаючую галоўным чынам з нявысокага культурнага разьвіцьця карэспандэнтаў,—улада пры жаданьні *можа зрабіць абсалютна немагчымым выяўляньне гэных надужыцьцяў і барацьбу з імі шляхам публікаваньня ў прэсе.*

Гэта прымушае нас перадусім зьвярнуцца да нашых карэспандэнтаў з заклікам, каб асабліва пільна глядзелі за точным апісаньнем падаваных фактаў—навет у драбніцах, ды каб гэтым памаглі нам па магчымасьці звузіць лічбу выпадкаў, у якіх адміністрацыя магла-бы тасаваць да нас рэпрэсіі, істнуючыя хіба ў аднэй толькі фашыстаўскай Італіі. Хай нашы карэспандэнты ведаюць, якую крыўду газэце яны могуць зрабіць няточным ці перакручаным апісаньнем фактаў надужыцьцяў і зьдзекаў, чыненых адміністрацыяй на мясцох. Хай зразумеюць, што толькі за поўным іх подпісам з падачай акуратнага адрасу іх карэспандэнцыі наагул могуць быць друкаваны: інакш Рэдакцыя, ня ведаючы, ці можна давяраць аўтару, ці мо' тут ёсьць нейкая злосная правакацыя,—ня здолее абсалютна зьмяшчаць вестак ад няведамых ей асоб.

З другога боку, вёска мусіць знайсьці сабе *новую аддушыну*, каб праз яе крычэць на ўвесь сьвет аб сваіх крыўдах і дазнаваных гвалтах. І такая аддушына істнуе: гэта—падача аб кожным выпадку гвалту і зьдзеку *жалабы пракурору, ваяводзе, міністру*,—пасылаючы адначасна копію жалабы ў газэту, у Цэнтральны Сэкрэтарыят Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, у Пасольскі Клюб Грамады ў Сойме.

Толькі такім шляхам можна будзе падаваць да агульнага ведама факты, якія інакш боязна друкаваць у газэце. Толькі такім спосабам вёска — дзеля абароны сваіх правоў—здолее і далей карыстацца такім магутным аружжам, якім зьяўляецца публічнае выяўленьне ўсіх незаконных і праступных паступкаў, якія так часта робяць „крэсавыя" агенты ўлады на мясцох,—праступкаў у роўнай меры проці істнуючае ў Польшчы — прынамся на паперы!—канстытуцыі, як і проці нашага многапакутнага і часта зусім безбароннага сялянства.

## Проці свабоды прэсы.

Польскі ўрад не захацеў чакаць, пакуль пройдзе праз Сойм рыхтаваны ім новы закон проці прэсы, але, пакуль-што, сам — шляхам дэкрэту прэзыдэнта — правёў рад такіх загадаў, якія фактычна зусім касуюць свабоду прэсы у Польшчы. 6 лістапада ў „Дзен. устав" апублікаваны гэты дэкрэт — аб карах за распаўсюджываньне няпраўдзівых вестак і за зьневажаньне ўладаў.

Вось галоўныя артыкулы гэтага дэкрэту.

Хто публічна, вустна ці ў друку, распаўвюджывае сьведама няпраўдзівыя ці перакручаныя весткі, якія могуць пашкодзіць інтарэсам дзяржавы, або выклікаць неспакой у грамадзянстве, датычна небясьпекі, пагражаючай дзяржаве ўнутры ці звонку, а перад усім—канстытуцыйнаму ці сацыяльнаму ладу дзяржавы, хаця-б вестка гэта падана была, як чутка, — той павінен быць пакараны штрафам ад 300 да 10.000 злотых, з заменай, у выпадку незаможнасьці, арыштам ад 10 дзён да 3 месяцаў.

Калі-ж у распаўсюджываньні няпраўдзівай весткі злой волі ня было, а была толькі „нядбайнасьць", тады грашовая кара зьмяншаецца да 100 — 3.000 зл., а арышт — ад 3 дзён да 1 месяца... Друк падлягае канфіскаце.

Хто публічна ці ў друку пусьціць сьведама няпраўдзівую ці перакручаную вестку, якая можа пашкодзіць інтарэсам дзяржавы або выклікаць публічны неспакой, датычна дзеяльнасьці дзяржаўных уладаў ці іх паасобных прадстаўнікоў, якая стаіць у сувязі з іх службовымі чыннасьцямі хаця-б навет гэтая вестка падана была, як чутка, — той падлягае штрафу ад 100 да 5.000 зл.,—з заменай арыштам ад 3 дзён да 6 тыдняў.

Калі гэта зроблена толькі праз нядбайнасьць, тады кара штрафам ад—50 да—2.000 злотых, ці арыштам—ад 1 дня да—тыдняў.

Прадстаўнікамі дзяржаўных уладаў у дэкрэце прызнаны: Прэзыдэнт Рэспублікі, старшыні Сойму і Сэнату, Старшыня Рады Міністраў, Міністры, Судзьдзі і дзяржаўныя ўрадоўцы, якія пакліканы да вырашэньня публічных спраў(?), да выдаваньняў распараджэньняў загадаў, і г. д... Правілы гэты датычаць таксама і вайсковых часьцей і іх камандзіраў.

Дэкрэт уваходзе ў сілу у 3 дні пасьля яго апублікаваньня, гэта значыць—ад 9 ліст.

Усё вельмі характэрна ў гэтым дэкрэце, цалком узятым з расейскага „выняткавага заканадаўства" царскіх часоў... Першае — тое, што ад 9 лістапада ня можна ўжо—пад страхам штрафу у 10.000 зл., ці адседкі 3 месяцаў — нават крытыкаваць самы гэты дэкрэт... Другое, што ў лік „дзяржаўных уладаў" неяк прыпадкам не ўвайшлі—ані Сойм ані Сэнат, ані іх сябры, якіх можна лаяць ды шэльмаваць: ад гэтага ніякай „небясьпекі дзяржаве ці канстытуцыі"—не пагражае... А галоўнае—тое, што дэкрэтам фактычна касуецца цалком нават тая „свабода прэсы", якая дагэтуль у некаторай меры і некаторых палітычных кірунках яшчэ істнавала ў Польшчы...

Што датычыць беларускай прэсы, дык дагэтуль амаль ня ўсе канфіскаты рабіліся прадстаўнікамі ўраду — часта ў рэзкай супярэчнасьці з Канстытуцыяй і законамі; цяпер усе гвалты над загарантаванай Канстытуцыяй свабодай прэсы і слова будуць рабіцца ўжо „законна" на падставе паўнамоцтваў. дадзеных парлямантам ураду і прадбачаных зьмененай ім-жа Канстытуцыяй.

Можна думаць, што, апрача меншасьцяў, новы дэкрэт будзе біць перадусім — па эндэцкай прэсе, якая, разам з намі, лічыцца—„антыпанствовай"... дык трэба напомніць толькі панам эндэкам, што яны самі ў Сойме далі ўраду і прэзыдэнту усе тыя паўнамоцтвы, якімі тыя цяпер і карыстаюцца...

Паміма ўсяго гэтага, дэкрэт проці прэсы ўводзіць яшчэ адну навіну, нябывалую навет у старыя царскія часы ў Расеі. Гэта—свайго роду **„кругавая парука" працаўнікоў газэты**, якія маюць гуртам адказваць за „няпраўдзівыя" і „перакручаныя" весткі, пералічаныя вышэй. Карам, прадугледжаным у дэкрэце, падлягаюць: **аўтар і іншыя ўчасьнікі віны(?), адказны рэдактар, фактычны кіраўнік газэты, ці кіраўнік даддзенага аддзелу яе.** Гэтыя-ж асобы будуць караны **за невыяўленьне** ў працягу 7 дзён аўтара, калі той у мамэнт выхаду у сьвет друку жыў у Польшчы... (арт. 4 і 5).

Выдавец, накладца (што дае грошы на выданьне), уласьнік газэты, кіраўнік друкарні, уласьнік або арандатар друкарні — салідарна адказваюць за штрафы, аплаты і конты вядзеньня справы (арт. 6).

На адміністрацыйную кару, наложаную паводле дэкрэту на газэту, можна жаліцца ў Акружны Суд, але... гэта ня спыняе аплаты штрафу ці адседкі! Дык, пакуль суд разгледзіць скаргу, выдаўцоў, рэдактароў, аўтараў могуць матэр'яльна зруйнаваць і пратрымаць у вастрозе, а там хай сабе суд іх анявініць... (арт. 10 і 12). А калі нельга спагнаць штрафу, дык улада можа зачыніць газэту.

Калі-ж замест зачыненае газэты нехта хацеў выдаваць яе **пад новым назовам**, — дык яго карацімуць штрафам да 5.000 зл., або арыштам да 6 тыдняў (арт. 14).

Вось на што зьведзена „свабода прэсы" ў Польшчы!

## Сойм і Сэнат.

### Паседжаньні камісіяў Сэнату.

Старшыня Сэнату Тромпчыньскі, ня гледзячы на „неадчыненьне" Сэнату асабіста панам Прэзыдэнтам, склікаў паседжаньні камісіяў. Паседжаньне фінансава-бюджэтнай камісіі было па прапазыцыі вызваленца Возьніцкага адложана,—бо ня прыбыў прадстаўнік ураду, які стаіць на тым, што — да „адчыненыя" Сэнату ня маюць права працаваць навет яго камісіі. Пасьля таго адбылося так сама ў адсутнасьці прадстаўнікоў ураду і сэнатараў з ППС, Пяста і „Клюбу Працы"—паседжаньне камісіі для заможных спраў.

Прыхільнікі ўраду разглядаюць гэта, як дэманстрацыю проці адкладу адчыненьня Парляманту. Але старшыня Сэнату фактычна стаяў на грунце наказу Сэнату. Прадстаўнік Вызваленьня, пасьля правалу яго прапазыкі аб адкладзе паседжаньня, пакінуў салю. Старшыня Тромпчыньскі сказаў прамову, у якой востра крытыкаваў становішча ўраду, ці даводзіў слушнасьць свайго пункту гледжаньня. Пасьля выбару дакладчыка паседжаньне было зачынена.

### Партыі аб нарушэньні Канстытуцыі.

Амаль ня ўсе партыі Сойму ўзбураны яўным нарушэньнем Канстытуцыі з боку ўраду, які ружой п. Прэзыдэнта затрымаў прадпісанае Канстытуцыяй адчыненьне парляманту яшчэ ў кастрычніку (арт. 25). Аб гэтым маюць эндэкі з хадэкамі ды Пястам зрабіць запрос ураду і запрапанаваць... новую зьмену Канстытуцыі, у якой павінна быць сказана ўжо зусім выразна — аб часе адчыненьня васеньняй сэсіі Сойму.

Соймавая франкцыя ППС прыняла гэткую рэзалюцыю:

„Урад, ня склікаўшы сэсіі Сойму ў кастрычніку, учыніў гэтым нарушэньне Канстытуцыі дый гэтак перашкодзіў Сойму распачаць працу—як над бюджэтам, так сама і над вырашэньнем раду спраў, зьвязаных з гаспадарчай палітыкай дзяржавы".

### На першым паседжаньні Сойму.

На першым дзелавым паседжаньні Сойму, якое мае адбыцца пасьля яго ўрачыстага адчыненьня ў б. каралеўскім замку, зробіць экспозэ ад імя ўраду мін. фінансаў Чэховіч.

Газэты падчырківаюць, што адчыненьне Сойму 13 лістапада — сымвалічна, бо як раз год назад у той-жа дзень марш. Пілсудск зьявіўся да прэзыдэнта Войцеховскага і зрабіў яму „першую перасьцярогу" (— пасьля ўпадку габінэту Грабскага), каб „не забываўся аб маральных інтарэсах польскай арміі".

## У Польшчы.

### Выхад п. Зьвежыньскага з „крэсавай камісіі".

Адзін з „рэчазнаўцаў у крэсавых справах" пасол-эндэк Зьвежыньскі, які цэлы год „працаваў" у слаўнай „камісі"—побач з пэпэзсаўцам Л. Васілевскім, — падаў прэм'еру заяву аб сваім выхадзе з складу камісіі. Выхад свой крэсавы жывaед матывуе „прынцыповым разыходжаньнем яго паглядаў з сучаснай палітыкай ураду ў справе нацыянальных меншасьцяў"...

Дзіўная рэч: ня толькі самі нацыянальныя меншасьці, але, здаецца, навет самі нашы „крэсавыя зубры" ніякіх „разыходжаньняў" ані ніякае зьмены ў урадавай палітыцы адносна да меншасьцяў ад часу „перавароту" —ня бачаць!. Як была „зьвежыньская", такой і асталася... Папросту, можа, пан „індычак" загадзя „сам выйшаў" з камісіі, пакуль ня выкінулі,—каб запрасіць на яго мейсца нягоршага „рэчазнаўца" з „жондовых абшарнікаў"—кшталтам пана САТ-а ці Ваньковіча, а мо—яшчэ лепш—самога Улад. Студніцкага.

### Далейшыя „гаспадарчыя" вынікі „Нясьвіжа".

Як ведама, паны абшарнікі-цукравары даўно ўжо націскаюць на ўрад, каб дазволіў ім падняць цану на цукер. Але дагэтуль урад Бартля, як і ўрад Пілсудскага, рашуча адмаўлялі ім у гэтым. Цяпер газэты паведамілі, што „назначаная мін. фінансаў камісія для дасьледу коштаў прадукцыі цукру, пасьля 2 тыдняў працы (якраз неяк — ад „Нясьвіжу"...) прыйшла да перакананьня, што цану трэба падвысіць...

Разыйшліся апэтыты цукравараў страшэнна: яны дамагаюцца падвыжкі аж на 25 проц.—з 82 да 120 зл. на цэнтнэру. Урад на гэта не згаджаецца, але наагул — падвысіць мае і, відаць,—значна.

### Зьмены вышэйшага складу паліцыі.

Газэты падалі цікаўную вестку, быццам урад Пілсудскага пастанавіў грунтоўна зьмяніць амаль ня ўвесь сучасны склад вышэйшых урадоўцаў дзяржаўнай паліцыі, пачаўшы ад самага галоўнага камэнданта — Божэнцкага, які ўжо і заменены другой асобай. Ведама, што галоўным пастаўшчыком „чалавечага матэрыялу" для вярхоў польскай паліцыі зьяўляўся заўсёды „Пяст". Дык цяпер і пачнецца „распяставаньне" паліцыі ў Польшчы. Можа, і будзе лепш. — Хаця-б дзеля таго, што горш быць ня можа...

### Скандальны пасол.

„Глос Правды" дае вельмі пікантныя рэвэляцыі аб адным з польскіх паслоў — п. Казіцкім, якога цяпер урад Пілсудскага адклікаў з Рыму, каб, відаць,—аддаць пад суд за розныя надужыцьці. Урадавая газэта закідае пану „амбасадору Польскай Рэчыпаспалітай" ня больш—ня менш, як тое, што ён усе тыя „фундушы", якія пасол атрымлівае „на прадстаўніцтва" — ці прасьцей: на балі, розныя ўгашчэньні высокіх ды патрэбных асобаў, на „лагоджаньне" прэсы і г. д... „фундаваў" папросту сабе самому: за гэтыя „рэпрэзэнтацыйныя" грошы п. амбасадор цішком купіў сабе пекны дом, але ў ім, ведама-ж, ня жыў, а разам з сваей „амбасадай" мясьціўся ў нейкім другарадным „заезьдзе", —кампрамітуючы гэтым „вагу і павагу" вялікага мацарства—Польшчы... Калі ўсё гэта праўда, дык „індычак"—ніштто сабе: „гаспадарны мужычок"...

### Ізноў надужыцьці ў банку.

У зьвязку з надужыцьцямі ў Аб'яднаным Каапэратыўным Банку ў Варшаве арыштаваны дырэктар банку.

## Заграніцай.

### Пасьля замаху на Мусоліні.

Пасьля замаху на Мусоліні сабралася Галоўная Фашыстаўская Рада, якая, паміж іншым, прыняла да ведама і адобрыла ўсё, што было зроблена „народам" — (чытай: фашыстаўскімі баёўкамі!) і партыйнымі ўладамі—ў сувязі з замахам на Мусоліні. Рада выразіла толькі „жаль", што гэты-ж „народ" ў некалькіх местах моцна „патурбаваў" пасольствы ды консульствы замежных дзяржаў (чытай: Францыі!).

Пасьля Рада адобрыла рад загадаў-рэпрэсіяў, зробленых урадам — ў мэтах „зьніштажэньня астаўшыхся яшчэ вогнішчаў заразы (апазыцыйнай... Рэд.) ды пэўнейшага забясьпечаньня жыцьця Павадыра народу, з якім неадарвальна зьвязаны — жыцьцё і сіла Італіі"..

Што-ж гэта за новыя загады-рэпрэсіі, аб якіх гавора Рада Фашыстаў?

Рада Міністраў прыняла новы праект закону аб шырокім тасаваньні **кары сьмерці**—за замахі на караля, рэгэнта, каралеву, наступніка трону і кіраўніка ўраду. Найцікаўней, што гэты законапраект прадбачыць кару сьмерці і для тых замахоўцаў, якія жывуць, як палітычныя эмігранты, **заграніцай**, ды можа стуль падрыхтоўваюць замахі! Але шкада, што дастаць іх, навет на падставе новага дэкрэту, будзе не лягчэй!

Далей, сьмерцяй карацімуць за цэлы рад іншых праступленьняў: за выдачу дзяржаўных і ваенных тайн, за... шуканьне навет гэтых тайнаў! за выкліканьне бунту, за падбураньне да хатняй вайны, да рабункаў і г.д.

Пасьля ў новым законе ідзе рад страшэнных рэпрэсіяў проці іншых праступленьняў, паміж якімі (— вельмі цікаўная паралель з іншымі дзяржавамі!) пачэснае мейсца занята—„праступленьнямі прэсы"...

Усе гэтыя праступленьні будуць судзіцца ня звычайнымі судамі, але асобнымі — ваенна-даразнымі, пад старшынствам — генаралаў, з 5 „судзьдзямі" з... афіцэраў міліцыі—(ведама-ж, фашыстаўскай). Гэтыя „суды" атрымаюць права рабіць прысуды навет завочна, ды канфіскаваць маемасьць засуджанага. Кіравацца гэтыя „суды" будуць Кодэксам, які мае сілу ў часе вайны. „Завочныя прысуды" з канфіскаваньнем маемасьці—гэта зьвернена асабліва проці эміграцыі.

З усяго гэтага ясна, што замахі на Мусоліні, з якіх ён неяк дзіўна заўсёды выходзіць навет „сухім", вельмі карысны дл

BIBLJOTEKA

